№№5–6
(3544–3545)
10 студзеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ІНІЦЫЯТЫВА

### *Усс звярнуўся да беларусаў*

Былы кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Усс зноў звярнуўся да грамадзян з просьбай узяць удзел у стварэнні ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за змяненне Выбарчага кодэкса.

# Санкцыі ЗША ў адносінах да Беларусі не будуць знятыя да той пары, пакуль на свабоду не выйдуць усе палітвязні

*Пра гэта паведаміў прэс-сакратар Белага дома* ***Джэй КЭРНІ.***

*Адзін з першых законаў, якія падпісаў у новым годзе прэзідэнт ЗША* ***Барак АБАМА****, — працягненне дзеяння Акта аб дэмакратыі ў Беларусі. Прычым закон не толькі захоўвае ранейшыя санкцыі, але і ўводзіць новыя.*

*Так, ЗША пашырылі спіс беларускіх чыноўнікаў і прадстаўнікоў сілавых структур, на якіх накладваюцца візавыя абмежаванні і фінансавыя санкцыі. Гэтых людзей не пусцяць у ЗША, а іхнія рахункі ў амерыканскіх банках будуць замарожаны. Праўда, у адрозненне ад Еўрапейскага Саюза амерыканскія законы не дазваляюць агалошваць інфармацыю, якая тычыцца персанальных консульскіх і банкаўскіх спраў, таму “чорныя спісы” абнародаваны не будуць. Кожны з фігурантаў асабіста даведаецца пра тое, што стаў для Злучаных Штатаў персонай нон грата.*

*Акрамя таго, закон утрымлівае заклік да Міжнароднай федэрацыі хакея адмовіцца ад правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.*

## *Тэлеканал Euronews стаў ахвярай фінансавага крызісу*

Ва ўсялякім разе такая выснова вынікае з апошніх заяў прадстаўнікоў кампаніі “Мінскія Тэлевізійныя Інфармацыйныя Сеткі”, якая з 1 студзеня прыбрала Euronews са сваёй сеткі вяшчання. Напачатку ў інфармацыйнай службе МТІС паведамлялі, што “такое рашэнне прынята кіраўніцтвам”, але падрабязнасці не ўдакладняліся. Пасля гэтага некаторыя ў знікненні папулярнага канала адразу ж знайшлі палітычны падтэкст — маўляў, беларускім уладам не падабаецца тое, як на Euronews асвятляюцца некаторыя падзеі ў Беларусі.

Аднак у апошні час у МТІС тлумачаць усё звычайнай адсутнасцю грошай — за трансляцыю канала трэба плаціць валютай, а тарыфы ў параўнанні з доларам выраслі зусім нязначна. Павысіць абаненцкую плату МТІС таксама не можа самастойна, бо гэтае рашэнне прымае камітэт Мінгарвыканкама. Усе спадзяванні на тое, што пастаўшчык пойдзе насустрач. Як стала вядома, права на трансляцыю Euronews кампанія “МТІС” купляла ў расійскага пастаўшчыка, а не праз цэнтральны офіс канала ў Францыі. У апошнім, дарэчы, таксама спадзяюцца, што ў хуткім часе праблема можа вырашыцца і ў Мінску зноў змогуць глядзець тэлеканал. Зараз з МТІС вядуцца перамовы, хоць іх сутнасць і не раскрываецца.

Між тым у гэтай сітуацыі выйгралі тыя, хто падключаны да кабельных апаратараў альбо мае спадарожнікавую талерку. Першы варыянт — больш эканамічны, хоць ніхто не забараняе таксама глядзець тэлеканал і праз інтэрнэт.

Нагадаем, што Euronews заставаўся адзіным незалежным тэлеканалам навін, які свабодна трансліраваўся ў Мінску. Паглядзім, ці адновіцца яго вяшчанне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## *Аляксандр ЯРАШУК: «Новы прафсаюз на “Граніце” будзем абараняць усімі сродкамі»*

Масавы выхад супрацоўнікаў мікашэвіцкага “Граніта” з афіцыйнага прафсаюза ў незалежны, аб якім раней пісала “Народная Воля”, выклікаў рэакцыю ўлад. Пачаліся адстаўкі прадстаўнікоў адміністрацыі прадпрыемства. Першай ад пасады начальніка аддзела працы і заработнай платы вызвалена Наталля Малевіч. Жанчына пакуль знаходзіцца ў шпіталі. Рабочыя крытычна паставіліся да рашэння адміністрацыі. Яны лічаць, што яе зрабілі “крайняй”, каб потым перавесці на іншую пасаду.

Такую ж рэакцыю выклікала і патрабаванне старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара аб адстаўцы гендырэктара “Граніта” Сцяпана Тураўца. *“Для нас гэта непрыемны момант, таму што гендырэктар з усяго кіраўніцтва там найбольш чалавечны”,* — сказаў рэферэнт старшыні БНП Аляксандр Доўнар.

Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук лічыць, што, нягледзячы на адносную лаяльнасць, гендырэктар мусіць несці адказнасць за сітуацыю на прадпрыемстве: “Рабочыя лічаць, што звальняць дырэктара несправядліва, бо ён з рабочымі размаўляў без грубасці. Але калі ён кіраўнік, то мусіць дабівацца, каб рабочыя атрымлівалі нармальныя заробкі. Мізэрныя заробкі на яго сумленні, і ён мусіць за гэта адказваць”.

Новая пярвічная арганізацыя незалежнага прафсаюза гарнякоў пакуль не атрымала афіцыйнай рэгістрацыі ў Лунінецкім райвыканкаме з-за адсутнасці юрыдычнага адраса арганізацыі. Адміністрацыя ж прадпрыемства пакуль адмаўляецца выдзеліць памяшканне.

Тым часам рабочыя працягваюць пісаць заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза і ўступаюць у новы — незалежны. Такіх ужо больш за дзве сотні чалавек.

Адміністрацыя больш не можа кантраляваць сітуацыю. З рабочымі размаўлялі, палохалі непадаўжэннем кантрактаў, пагражалі, што тыя пазбавяцца надбавак да адпачынкаў і г.д. Але працэс выхаду з афіцыйнай арганізацыі набыў масавы характар.

Аляксандр Ярашук заявіў, што новы незалежны прафсаюз у Мікашэвічах будуць абараняць усімі сродкамі. *“Мы ўважліва сочым за сітуацыяй, і знішчыць новую структуру адміністрацыі не ўдасца. Незалежны прафсаюз там будзе. Калі спатрэбіцца, мы задзейнічаем міжнародны прафсаюзны рух. Салідарнасць — гэта сур’ёзная рэч. Тут не выключаны байкот беларускіх тавараў у Еўропе. Гэта той выпадак, калі мы павінны займаць прынцыповую пазіцыю”,* — заявіў Аляксандр Ярашук.

Старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў Мікалай Зімін сказаў, што цяпер для тых, хто ўвайшоў у новую арганізацыю, наладжана вучоба. *“Трэба, каб людзі мелі ўяўленне пра сапраўдную ролю прафсаюзаў і маглі бараніць свае правы. Праблема ў тым, што ў нашым грамадстве катастрафічна бракуе элементарных ведаў. Людзі не ведаюць, як можна кваліфікавана абараняць свае інтарэсы”.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

З-ЗА КРАТАЎ



## *Бандарэнку зноў адмоўлена ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні*

*Пра гэта паведаміла жонка зняволенага палітыка Вольга.*

Нагадаем, першы раз пытанне аб магчымым змякчэнні пакарання Дзмітрыю Бандарэнку абмяркоўвалася камісіяй па ўмоўна-датэрміновым вызваленні і замене рэжыму пакарання ў верасні мінулага года. 20 жніўня мінула трэць тэрміну зняволення палітыка, і, згодна з законам, ён меў права на змякчэнне пакарання. Аднак Бандарэнку ў гэтым адмовілі.

Пра чарговую адмову ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні палітык, які знаходзіцца ў Магілёўскай калоніі, паведаміў жонцы 8 студзеня падчас тэлефоннай гутаркі. *“4 студзеня ў калоніі адбылося пасяджэнне камісіі па ўмоўна-датэрміновым вызваленні. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, Дзмітрыю ў вызваленні было адмоўлена з фармуліроўкай „да змянення ступені атэстацыі”. Аказваецца, адной з умоў змянення атэстацыі з’яўляецца прызнанне віны”,* — расказала Вольга.

Паводле яе слоў, у Бандарэнкі доўгі час трымаецца павышаны ціск, моцна баліць спіна, запалілася грыжа шыйна-груднога аддзела пазваночніка. Яна не выключае, што мужу спатрэбіцца новая аперацыя.

Як вядома, Дзмітрый Бандарэнка, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Андрэя Саннікава, быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

БЛІЦ

*В интервью, опубликованном в газете “Звязда”, Чрезвычайный и Полномочный Посол России в Беларуси Александр Суриков сказал: “Если вдруг Беларусь снова окажется в сложной валютно-финансовой ситуации, как это случилось в 2011 году, тогда, возможно, стоит подумать о переходе на единую с Россией валюту”.*

*А что думают по этому поводу белорусские эксперты? Мы связались с некоторыми из них и задали такие вопросы:*

## Если в Беларуси на самом деле осложнится валютно-финансовая ситуация, нужно ли будет переходить на единую с Россией валюту? Может ли Россия намеренно спровоцировать в Беларуси кризис?

### Станислав БОГДАНКЕВИЧ, *экс-глава Национального банка Беларуси:*

— В самой ближайшей перспективе, я имею в виду следующие год-два, проблема введения российского рубля в Беларуси стоять не будет — у Беларуси пока еще не такая большая зависимость от России. Кроме того, внешняя задолженность Беларуси по отношению к нашему внутреннему валовому продукту не критическая.

Что касается перехода Беларуси на российский рубль, я всегда относился к этой идее отрицательно, потому что это окончательно привяжет Беларусь к России. А Россия сама базируется не на развитии высоких технологий, не на развитой промышленности, а на сырьевом ресурсе — на нефти и газе.

Я убежден: для того чтобы поднять экономику Беларуси, нам нужна западная технология. Поэтому нам нужна только своя национальная валюта.

Россия может спровоцировать экономический кризис в Беларуси в любое удобное для нее время — Беларусь имеет полную зависимость от российских энергоносителей. Если нам перекроют газ или повысят на него цену, то это сразу же станет проблемой для Беларуси. Кроме того, Беларусь сильно зависит от России в вопросе товарооборота — мы сбываем от 60% до 90% своей продукции в Россию. Ошибка правительства Лукашенко именно в одностороннем экспорте — всё только в Россию. Случись что, мы сразу же попадем в зависимость. Поэтому, безусловно, спровоцировать кризис она может.

### Сергей ЧАЛЫЙ, *экономист:*

— Что касается того, может ли Россия спровоцировать в Беларуси финансово-экономический кризис, то это запросто. Такие попытки со стороны российского руководства уже были. Вспомните, как Россия медлила с выделением очередного транша кредита для Беларуси, открыто заявляя о том, что есть большие сомнения в платежеспособности нашей страны.

Что касается введения российской валюты на территории Беларуси, то у посла Сурикова это идефикс. Он практически в каждом своем интервью об этом говорит, притом что такую идею не озвучивает никто из российских чиновников, отвечающих за денежно-кредитную и внешнюю политику.

По моему убеждению, введение российского рубля только навредит Беларуси. Смысла в его введении здесь нет. Кризис, который у нас случился в прошлом году, был вызван завышенным курсом национальной валюты по отношению к евро и доллару. Девальвация, которая произошла, в той или иной степени решила проблему с внешней конкурентоспособностью Беларуси. И это нормальный рыночный механизм, которым воспользовалось большинство стран.

В случае перехода на российскую валюту Беларусь утратит способность контролировать валюту, потому что деньги эти, скорее всего, будут печататься не в Минске. В случае введения российского рубля наша страна потеряет инструмент, с помощью которого происходит корректировка экономики.

### Василий ШЛЫНДИКОВ, *экс-председатель Комиссии по экономической политике и реформам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва:*

— Беларуси и даром не нужен переход на российский рубль. Во-первых, переход на российскую валюту приведет к потере независимости Беларуси. Во-вторых, переход на российский рубль не поможет экономике нашей страны. Вы посмотрите, вливание евро в экономику Греции не может спасти эту страну от экономического кризиса. Российский рубль хоть и покрепче белорусского, но не сравним по устойчивости с тем же евро или долларом...

### Александр ТИМОШЕНКО, *начальник управления информации Национального банка Беларуси:*

— Это вопрос к руководству Национального банка Беларуси, а не ко мне... Поймите правильно, по этому поводу неоднократно высказывался глава государства, по поводу возможности перехода на какие-то другие валюты. Позиции руководства страны и Нацбанка всегда совпадают...

### Леонид ЗЛОТНИКОВ, *экономист:*

— Скажу откровенно, никакого кризиса провоцировать в Беларуси не нужно, он и сам придет. Уже к весне в Беларуси сложится тяжелая экономическая ситуация — у Беларуси большой отток валюты, потому что за предыдущие годы у нас образовалось приличное количество долгов. И в 2012 году нам нужно их отдавать. Отдавать должны все — и правительство, и предприятия, и банки. Около миллиарда долларов в месяц в этом году Беларусь должна возвращать. Еще пару миллиардов Беларусь должна нерезидентам — иностранным инвесторам, которые ждут прибыли от своих вложений. Поэтому Беларусь сама влетит в очередной экономический кризис, без всякой провокации со стороны России.

Что касается перехода на российский рубль... Если наше правительство не справляется с экономикой: растет инфляция, печатаются “пустые” деньги — то тогда просто должно быть другое правительство в стране, либо и вправду нужно переходить на российский рубль. Не всю же жизнь голодными ходить? Да, это потеря экономического суверенитета... Но вот вам пример: Эстония переходила на евро со стоном, но отказалась от своей валюты. Потому что жить лучше хотят... Белорусы что, жить лучше не хотят? Перед нами стоит выбор: либо реформируется экономика по примеру России, чтобы и в Беларуси была рыночная экономика, либо Беларусь превратится в Северную Корею, где люди, как и мы, строят социализм, но при этом голодают...

**Опрос проводил Виталий ГАРБУЗОВ.**

ПРЭЦЭДЭНТ

## Здымаць забаронена?

У панядзелак суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Аляксандр Хадановіч прыняў рашэнне аб арышце на 11 сутак аператара тэлеканала “Белсат” Аляксандра Баразенкі, які здымаў адзіночную акцыю пратэсту ля будынка КДБ, якую днём раней ладзіў грамадскі актывіст Мікіта Каваленка.

У нядзелю 8 студзеня Мікіта на прыступках будынка КДБ разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг і партрэты палітвязняў. Літаральна праз некалькі хвілін з будынка выбеглі людзі ў цывільным і хлопца затрымалі. Арыштавалі і аператара, які ўсе гэтыя падзеі здымаў.

Цікава, што Аляксандр Баразенка прапанаваў знішчыць відэазапіс і такім чынам вычарпаць інцыдэнт на месцы. Аднак людзі ў цывільным на такі варыянт не пагадзіліся і даставілі абодвух — і Каваленку, і Баразенку — у міліцыю Цэнтральнага раёна сталіцы. Там на хлопцаў склалі адміністрацыйныя пратаколы і абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі. Да суда іх трымалі ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна.

Мікіта Каваленка не адмаўляў, што ладзіў адзіночны пікет пратэсту (дарэчы, нават у Расіі, напрыклад, такія пікеты не лічацца паўнавартаснай акцыяй і дазволу не патрабуюць). І атрымаў за гэта “па поўнай” — 15 сутак.

А вось гісторыя з пакараннем Аляксандра Баразенкі насцярожыла і праваабаронцаў, і журналістаў, бо, па сутнасці, стала прэцэдэнтам. Хлопец патлумачыў, што ішоў па вуліцы з дзяўчынай, ні ў якой акцыі не ўдзельнічаў, і папросту зрабіў відэазапіс таго, што раптам убачыў. Так прынята ў журналістаў — не праходзіць міма падзей, нават калі ты робішся іх выпадковым сведкам.

Але суддзя пагадзіўся з абвінавачаннямі з боку міліцыянераў і пастанавіў арыштаваць аператара як удзельніка акцыі, чым, па сутнасці, і стварыў судовы прэцэдэнт. Бо зараз паўстае пытанне: як можна караць чалавека за ўдзел у акцыі, да якой ён не меў дачынення? Калі, па прыкладзе суддзі Хадановіча, да ўдзельнікаў недазволеных акцый цяпер будуць адносіць і тых, хто ўсяго толькі здымаў на камеру ці мабільнік тое, што адбываецца, то караць прыйдзецца і гасцей сталіцы, якія любяць усё замацоўваць “на памяць”, і выпадковых сведак, і проста людзей цікаўных.

Цётка Аляксандра Баразенкі — Жанна Манько — у панядзелак прысутнічала на судзе. Яна прыйшла ў рэдакцыю толькі таму, што нават пасля суда не здолела зразумець, за што ж пасадзілі яе пляменніка. “Больш за ўсё мяне абурыла тое, што суддзя праігнараваў паказанні і хлопцаў, і сведкаў, а таксама прамову адваката. Суддзя Аляксандр Хадановіч усіх выслухаў і адразу зачытаў прысуд — 11 сутак арышту. За што?! Ён жа не ладзіў ніякай акцыі, нікога не абразіў, не зрабіў ніякага правапарушэння. Чалавек зняў на камеру тое, што ўбачыў. Але цяпер і за гэта можна сесці за краты. За што пасадзілі Сашу? За якую такую акцыю?” — запытвае Жанна Манько.

**Любоў ЛУНЁВА.**

### ТЫМ ЧАСАМ

У інтэрнэце разгарнулася гарачая дыскусія наконт таго, ці трэба ўвогуле ладзіць падобныя акцыі. Ад якіх, як кажуць, нікому ні горача ні холадна, затое арышт забяспечаны. Меркаванні падзяліліся.

Журналіст **Алесь Пілецкі** лічыць: “Рызыкаваць трэба з галавой і думаць пра вынікі сваёй акцыі”.

Меркаванне намесніка кіраўніка кампаніі “Гавары праўду!” **Андрэя Дзмітрыева** наступнае: “Стварыць план і працаваць па ім — гэта непрыемна і складана, ды і фота не зробіш, а тут адразу ўсё: і хлопец герой, і паказалі, як журналістаў затрымліваюць, а ўсе астатнія нібыта баязлівцы і нікчэмныя нахлебнікі. Гэта вечны бег па крузе дзеля саміх сябе, які ніяк не змяняе грамадства, не ўплывае на ўладу, не робіць ніякіх зрухаў, акрамя таго, што дае маладым дэбілам са спецназу магчымасць патрэніравацца. Можа, кіраўніцтву “Еўрапейскай Беларусі” *(нібыта да гэтай незарэгістраванай арганізацыі мае дачыненне Мікіта Каваленка. —* **Рэд.**) і ўсёй шматтысячнай падпольнай сетцы надышоў час выйсці? Ці, нарэшце, проста думаць, а потым рабіць? Упэўнены, ёсць шмат спосабаў працаваць так, каб страты былі мінімальныя, а эфект дастатковы.

Грамадскі актывіст **Павел Юхневіч** мяркуе: “Пры больш уважлівым разборы палётаў высветлілася: Мікіта Каваленка вырашыў зладзіць акцыю ў стылі класічнага дысідэнцтва ў таямніцы нават ад сваіх сяброў. Інакш яго б наўрад ці туды пусцілі. Што ж, кожны мае права і прычыны на падобнае дзеянне. Асуджаць яго ні ў якім разе не буду, ад захаплення таксама, мабыць, устрымаюся”.

## *Вольга Доўгая раскажа*

У прэм’ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча нарэшце з’явіўся прэс-сакратар. Гэтую пасаду цяпер займае Вольга Доўгая. Раней яна працавала палітычным аглядальнікам у Агенцтве тэленавін на канале “Беларусь 1”.

Дарэчы, упершыню ў беларускай гісторыі гэтую пасаду заняла жанчына. Былыя прэм’еры адказнымі за стасункі з прэсай прызначалі выключна мужчын. Так, прэс-сакратар Сяргея Сідорскага Аляксандр Цімашэнка зараз узначальвае упраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка.

СТРАТА

## *Смуткуем...*

Учора на 56-м годзе жыцця ў адной з мінскіх бальніц памёр вядомы футбаліст, чэмпіён Савецкага Саюза 1982 года ў складзе мінскага “Дынама” **Пётр Васілеўскі**.

Пётр Васілеўскі гуляў у “Дынама”, ташкенцкім “Пахтакоры”, магілёўскім “Дняпры”... Затым працаваў трэнерам юнацкай зборнай Беларусі.

Аляксандр Пракапенка, Віктар Янушэўскі, Юрый Курненін, Пётр Васілеўскі... Шэрагі славутых чэмпіёнаў радзеюць.

**Алесь СІВЫ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Шэсць фактаў па справе Алеся Бяляцкага, пра якія не распавядае БТ і не пішуць у «Советской Белоруссии»

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія распачалі шалёную кампанію дыфамацыі вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, вельмі любяць распавядаць пра ягоную маёмасць. У сувязі з гэтым мы, калегі Алеся Бяляцкага, вырашылі агучыць рэальныя факты, якія замоўчваюцца ці скажаюцца штатнымі прапагандыстамі ў мэтах дыскрэдытацыі зняволенага праваабаронцы.

Адразу адзначым, што ўсе выкладзеныя факты пацвярджаюцца афіцыйнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў матэрыялах крымінальнай справы А.Бяляцкага і былі агучаны падчас судовага пасяджэння.

**Факт першы:** двухпакаёвая кватэра, у якой пражывае сям'я Алеся Бяляцкага, была набыта **ў 1999 годзе** ў выніку продажу двух аднапакаёвых кватэр, якія належалі сям'і Бяляцкіх (знаходзіліся на вул.Варанянскага ў г.Мінску). Варта адзначыць, што, працуючы дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (з 1988-га па 1998 год), Алесь Бяляцкі атрымаў адну з гэтых аднапакаёвых кватэр па ордэры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, другая была набыта на пачатку 90-х гадоў — у гэтыя часы Алесь актыўна займаўся перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю.

**Факт другі:** кватэра на праспекце Незалежнасці, 78А-48, у якой месціцца офіс Праваабарончага цэнтра "Вясна", **была набыта ў 2000 годзе**. Па ўзгодненым рашэнні Рады Праваабарончага цэнтра "Вясна" кватэра была афармлена на прыватную асобу, у ёй быў афіцыйна зарэгістраваны Алесь Бяляцкі. Дзякуючы таму, што офіс з'яўляўся прыватнай уласнасцю, Праваабарончы цэнтр "Вясна" змог прапрацаваць у ім 11 апошніх гадоў. У гэтай кватэры рэгулярна праводзяцца прэс-канферэнцыі і прэзентацыі, яна добра вядома практычна ўсім грамадска-палітычным актывістам краіны і людзям, якія сутыкаюцца з парушэннем іх правоў, яе наведваюць замежныя дыпламаты.

Ведаюць пра існаванне офіса і беларускія спецслужбы. У афіцыйных санкцыях КДБ на правядзенне ператрусаў у данай кватэры ў снежні 2010-га і студзені 2011 года было ўказана, што следчыя мерапрыемствы адбываліся ў офісе "незарэгістраванага ПЦ "Вясна".

У дзяржаўных СМІ спецыяльна называюць сучасны рынкавы кошт нерухомасці, які значна вырас за апошнія 13 гадоў. Разам з тым на момант набыцця кошт гэтай кватэры складаў **каля 23.000 долараў ЗША**.

**Факт трэці:** "шыкоўны катэдж" Бяляцкіх у мястэчку Ракаў уяўляе сабой не што іншае, як адрамантаваную старую драўляную хату (таму яе неахвотна паказваюць па БТ). Лецішча было набыта сям'ёй **у 2005 г.,** прычым зямельны ўчастак, на якім стаіць дом, не быў прадметам куплі-продажу. Участак належаў папярэднім гаспадарам на праве пажыццёвага валодання (не быў прыватнай уласнасцю) і быў пазней прыватызаваны Бяляцкім самастойна. Як вядома, прыватызацыя зямельных участкаў у Беларусі каштуе танна: у даным выпадку яна абышлася Бяляцкім **у 161.330 беларускіх рублёў**.





**Ці ж можна назваць "шыкоўным катэджам" адрамантаваную драўляную хату?**

Таксама звяртаем увагу на тое, што **перыяд атрымання сродкаў А.Бяляцкім, якія разглядаўся ў судзе па крымінальнай справе праваабаронцы, — 2007—2011 гг., а набыццё маёмасці адбывалася ў 1999-м, 2000-м і 2005 гадах адпаведна.**

**Факт чацвёрты**: "шыкоўны аўтамабіль", які набыў А.Бяляцкі ў 2010 годзе, — гэта "Сітраен С-5" 2003 г. выпуску, які быў увезены ў Беларусь з Літвы ў пашкоджаным стане. Паводле афіцыйнай дамовы куплі-продажу, ён **каштаваў 2300 еўра**, а разам з мытнымі плацяжамі — **3000 еўра**.

Алесь Бяляцкі не мае вадзіцельскіх правоў, машынай карыстаўся ягоны сын Адам — адзін з актыўных удзельнікаў акцый "стоп-бензін" у Мінску. У ліпені 2011 года ён адзін з першых спыніў сваю машыну на праспекце, чым ініцыяваў перакрыццё руху на некалькі гадзін. За ўдзел у жнівеньскай акцыі Адам быў арыштаваны, а машына была пагружана на эвакуатар і вывезена на штрафную стаянку, дзе знаходзіцца і зараз.

**Факт пяты:** за перыяд **з 1994-га па 2008 г.** інспекцыяй па падатках і зборах Першамайскага раёна г.Мінска праводзілася праверка прыбыткаў Алеся Бяляцкага і членаў ягонай сям'і. Перавышэнне прыбыткаў А.Бяляцкага над ягонымі выдаткамі па выніках данай праверкі склала суму, эквівалентную 30 доларам ЗША. Перавышэння выдаткаў над прыбыткамі ў іншых членаў сям'і не было ўстаноўлена. Варта нагадаць, што менавіта на гэты перыяд часу і прыпадаюць здзелкі з купляй маёмасці.

**Факт шосты:** грашовыя сродкі **НЕ АПЫНУЛІСЯ** на рахунках, адкрытых А.Бяляцкім у Літве і Польшчы, **а БЫЛІ ПЕРАЛІЧАНЫ** туды шэрагам фондаў згодна з двухбаковымі дамоўленасцямі паміж данымі фондамі і Праваабарончым цэнтрам "Вясна". Атрыманыя сродкі расходаваліся арганізацыяй на заяўленыя мэты: праваабарончую дзейнасць, у тым ліку — аказанне дапамогі ахвярам парушэння правоў чалавека. Уся справаздачнасць па расходаванні атрыманых сродкаў была прадстаўлена Праваабарончым цэнтрам "Вясна" фондам, якія не выказалі ніводнай прэтэнзіі да іх выкарыстання. Такім чынам, грашовыя сродкі з рахункаў, адкрытых на імя А.Бяляцкага, не з'яўляюцца ягоным асабістым прыбыткам і, адпаведна, не падлягаюць падаткаабкладанню.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна".**

## *Разгляд скаргі Бяляцкага — 24 студзеня*

*Скарга праваабаронцы Алеся Бяляцкага на прысуд Першамайскага суда Мінска будзе разглядацца ў Мінскім гарадскім судзе.*

Як вядома, кіраўнік незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года зняволення паводле абвінавачання ў нявыплаце падаткаў з вялікіх прыбыткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе атрыманыя на свае рахункі грошы выдаткоўваў на праваабарончую дзейнасць.

Згодна з прысудам, Бяляцкі павінен выплаціць дзяржаве 757 млн 526 тыс. 717 рублёў (каля 90 тыс. долараў). Амаль уся гэтая сума для пагашэння ўрону сабраная. На 6 студзеня на рахунак жонкі Бяляцкага — Наталлі Пінчук — паступіла 735 млн 59 тыс. рублёў добраахвотных ахвяраванняў.

За кратамі Алесь Бяляцкі знаходзіцца з 4 жніўня 2011 года. Цяпер праваабаронцу трымаюць у Жодзінскім следчым ізалятары.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# *Віктар СТАТКЕВІЧ: «Хто на Канарах, а хто ў турме»*

***Бацька палітвязня Мікалая Статкевіча Віктар Паўлавіч нядаўна даведаўся аб тым, што яго сыну пагражае новы суд. Вось такі сумны "падарунак" ветэран атрымаў на свята. Суд, наступствам якога можа стаць перавод Статкевіча з калоніі ў турму, прызначаны на 12 студзеня.***

*— Я ўпэўнены, што гэта каманда зверху,* — гаворыць Віктар Паўлавіч. *— Хочуць прымусіць Міколу напісаць прашэнне аб памілаванні. Але ж прашэнне пішуць злачынцы, а мой сын не злачынца. Ён не будзе пісаць ніякага пакаяння. Як прымусіць улады адпусціць на волю майго сына, не здзекавацца, не ламаць яго? Вось у чым пытанне! Думаю, што расійскія ўлады зараз не будуць ціснуць на беларускія, бо зусім не зацікаўлены, каб Беларусь хіснулася ў бок Еўропы. Ім жа патрэбна тут не незалежная краіна Беларусь, а правінцыя, глыбінка расійская. Нават не ведаю, што рабіць.*

*Я разумею, што ў турме Міколу будзе горш, чым у калоніі. Ён і так ізаляваны, а так будзе ў яшчэ большай ізаляцыі. Вось адзін ліст я атрымаў ад яго ў панядзелак. Амаль нічога пра сябе не піша, толькі ўсё пра мяне запытваецца. Я разумею, што стары, мне ўжо няшмат засталося... Таму ён, канешне, непакоіцца за маё здароўе. Але разумею і тое, што ён пра сябе асабліва нічога і напісаць не можа. Бо парвуць той ліст ды яшчэ потым перад строем вымову дадуць.*

*Старэйшы сын усё кліча мяне да сябе ва Украіну. А як я паеду? Уся сувязь з Міколам праз мяне, пасылкі праз мяне. Аднойчы, з месяц таму, ён патэлефанаваў. Яму толькі мне і дазволілі зрабіць званок... Таму нікуды я не паеду, тут буду.*

*Але, ведаеце, у сына шмат сяброў. Вось я хаджу па горадзе, і мяне ўвесь час спыняюць незнаёмыя людзі і запытваюць, як там Мікалай, ціснуць мне руку, кажуць шмат цёплых слоў. Канешне, я ім ганаруся. Але гэта такі гонар, калі сэрца абліваецца крывёй...*

*І Мікола сваімі дзецьмі таксама можа ганарыцца. Вось Каця мне ліст даслала. Яна ўжо ў Германіі доктарскую абараніла. Шмат чаго піша аб тым, дзе была, што бачыла... Сюды ёй прыязджаць не трэба, а то яшчэ нейкую правакацыю супраць яе ўчыняць. Няхай лепш там застаецца пакуль. Так мне спакайней. У параўнанні з нармальнымі краінамі мы ж тут жывём, як у каменным веку. Там людзі могуць вандраваць, свет паглядзець. А ў нас тых, хто хоча нармальных умоў для людзей, кідаюць у турмы. Вось і атрымліваецца — хто на Канарах, а хто ў турмах".*

Суд над Мікалаем Статкевічам адбудзецца ў Шклоўскай калоніі №17. Палітвязень меў некалькі спагнанняў ад адміністрацыі калоніі за дробныя парушэнні, якія тычыліся формы вопраткі, напрыклад, на адзенні не было біркі, якую выдае дзяжурны.

Калі суд пагадзіцца з адміністрацыяй калоніі і прызнае Мікалая Статкевіча злосным парушальнікам дысцыпліны, то яго могуць перавесці адбываць пакаранне ў больш жорсткіх умовах. Яму будуць дазволены толькі адно кароткае спатканне са сваякамі за год, адна бандэроль вагой да двух кілаграмаў замест цяперашніх трох да 30 кілаграмаў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Жонка палітыка 9 студзеня наведала калонію ў Шклове

Як паведаміла Марына Адамовіч, яна спрабавала перадаць мужу медыцынскую бандэроль. Па яе словах, у Мікалая ёсць неабходнасць у пэўных леках, але прыняць іх адмовіўся старшы лейтэнант медыцынскай службы Дзяніс Асіпчук. Спадарыня Адамовіч упэўнена, што гэта было не асабістае рашэнне турэмнага медыка, а загад начальства. Але з чым ён звязаны, высветліць не ўдалося.

## *За інтэрнэт будуць караць юрыдычныя асобы*

З 6 студзеня ў Беларусі набылі моц папраўкі ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія датычацца адказнасці за парушэнні ў сферы выкарыстання інтэрнэту.

Гэтыя новаўвядзенні ў заканадаўстве многія расцэньваюць як інтэрнэт-цэнзуру. Шэраг аналітыкаў, прадстаўнікоў інтэрнэт-супольнасці і карыстальнікаў сеткі асцерагаюцца ўзмацнення жорсткасці кантролю за непажаданымі для ўлад апазіцыйнымі сайтамі. Паводле неафіцыйных даных, ужо сёння ў спіс забароненых рэсурсаў, акрамя сайтаў парнаграфічнага зместу, уключаны сайты незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна", "Белорусский партизан", "Хартыя'97" і блог Яўгена Ліпковіча ў "Жывым журнале".

Напярэдадні набыцця моцы папраўкамі ў КоАП і ПВКоАП Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце Беларусі (ААЦ) распаўсюдзіў каментарый. У ім адзначаецца, што "змяненні ў заканадаўства закліканы стварыць спрыяльныя ўмовы для суб'ектаў гаспадарання Беларусі, забяспечыць празрыстасць інтэрнэт-гандлю, абараніць інтарэсы беларускіх інтэрнэт-карыстальнікаў ад забароненай да распаўсюджвання заканадаўствам інфармацыі (гандаль людзьмі, парнаграфічныя матэрыялы, прапаганда насілля, бязлітаснасці і да т.п.), стварыць умовы для абароны гонару і годнасці".

Якіх-небудзь абмежаванняў па выкарыстанні інтэрнэт-рэсурсаў для грамадзян не прадугледжваецца, іх доступ да замежных інтэрнэт-сайтаў не абмяжоўваецца, а распаўсюджаная некаторымі СМІ і інтэрнэт-рэсурсамі інфармацыя аб увядзенні ў Рэспубліцы Беларусь адказнасці за наведванне замежных сайтаў не адпавядае рэчаіснасці, сцвярджае ААЦ.

"Заканадаўства не перашкаджае дзейнасці беларускіх суб'ектаў гаспадарання па рэалізацыі тавараў, выкананні работ і аказанні паслуг за межамі Рэспублікі Беларусь з выкарыстаннем замежных інтэрнэт-рэсурсаў. Да адміністрацыйнай адказнасці могуць прыцягвацца толькі юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі Рэспублікі Беларусь за ажыццяўленне на яе тэрыторыі дзейнасці па рэалізацыі тавараў, выкананні работ і аказанні паслуг з выкарыстаннем інтэрнэт-рэсурсаў, размешчаных за межамі нацыянальнага сегмента сеткі інтэрнэт", — гаворыцца ў паведамленні ААЦ.

ОСТРАЯ СИТУАЦИЯ

# Вместо отпечатков пальцев Виталий Казак сдал анализ ДНК

## *И заплатил 700 тысяч рублей штрафа*

Здоровый, в расцвете сил **Виталий Казак,** кажется, попал в крутой переплет. Дожил до 38 лет, но в армии не служил: весь призывной возраст досматривал одинокую мать-пенсионерку. Она осталась без мужа-кормильца, попавшего под радиоактивное облако сразу после взрыва на Чернобыльской АЭС. Он официально считается неработающим, хотя по договорам организует праздничные и торжественные мероприятия. Участвует в общественной жизни. Например, когда в Бресте 22 июня отмечали 70-летие начала Великой Отечественной войны и обороны Брестской крепости и когда сюда приезжал президент, была встреча на ул.Советской, где он выступал в роли сотрудника НКВД, вел "допросы", инсценируя события предвоенной поры. Не знал тогда, что вскоре сам станет заложником — не допроса, а закона.

Про его активную жизненную позицию говорит и тот факт, что еще в 2006 году он с поличным задержал возле дома автомобильного вора-рецидивиста, которого никак не могла поймать милиция. "Конечно, было опасно, — вспоминает Виталий, — он был с отверткой в руке, а я — с монтировкой. Но победила монтировка". За это он был удостоен Почетной грамоты УВД Брестского облисполкома и награжден денежной премией. Однако прежние заслуги ему не зачли...

### Милиция мягко стелет, да жестко спать

— Когда вы столкнулись с необходимостью сдать отпечатки пальцев и почему возник этот вопрос?

*— Сразу же после взрыва в Минске 3 июля, в День Независимости. Меня пригласили тогда в Московский райотдел милиции Бреста, стали уговаривать сдать отпечатки пальцев. Я отказался. Мне сказали: "Подумайте, потому что могут возникнуть проблемы".*

*Что, скажите, дадут эти отпечатки? Если даже вообразить, что, допустим, я готовлю преступление и взялся за ручку двери, то потом могу ее протереть, чтобы не оставить на ней и следа. Я не вижу в них никакого смысла.*

*Мы знаем, что каждый палец отвечает за работу определенного внутреннего органа и что, массируя пальцы, мы стимулируем деятельность внутренних органов и мозга, то есть жизненно важных центров, которые отвечают и за мою духовную составляющую. Я — православный, и в семье мы всегда ценили веру в Бога, честь, совесть и порядочность. По моим религиозным убеждениям, если вы сдаете отпечатки пальцев, значит, нехороший человек или какой-то злоумышленник, преследующий неблаговидные цели, может воспользоваться отпечатками и, возможно, оказать на меня отрицательное воздействие. Ведь сегодня современные технологии так шагнули, что недалек час, когда можно будет управлять сознанием человека.*

*У меня также брало интервью СТВ на улице Советской — насчет второго взрыва в метро в апреле 2011 года. Были свидетели, что на протяжении последних 12 лет я дальше Березы никуда не выезжал. Я, как гражданин, любящий свою страну и людей, сказал, что осуждаю взрыв и что террористы должны быть схвачены и понести суровое наказание.*

*Потом мне звонили из милиции, напоминали о дактилоскопии и прислали с полдесятка повесток. Вызванивали моей 78-летней больной матери. Она расстраивалась, плакала.*

*Я несколько раз приходил в милицию, разговор был по душам. Мне говорили, что отказываться от дактилоскопии — это непатриотично, что долг настоящего гражданина — сдать отпечатки пальцев. Я написал заявление, по каким причинам не могу пройти дактилоскопию, что вместо отпечатков пальцев готов сдать анализ ДНК, что гораздо патриотичней, так как тогда меня могут определить даже по одному волоску или, не дай Бог, по косточке.*

*Тогда сотрудник милиции сказал, что этот случай единичный. Он дал мне палочку с ваткой, и я два раза провел под языком и между зубов. Говорю: "Могу еще сдать сетчатку глаза — для безопасности государства!" Но сотрудники не согласились на это.*

*Я думал, на этом все и закончилось, но в ноябре 2011 года, оказывается, передали дело участковому инспектору милиции Александру Ярошуку, который 24 числа пригласил меня к себе в участок. Там я написал объяснительную, а он — протокол, что я, военнообязанный гражданин РБ,* ***"отказался от прохождения обязательной дактилоскопической регистрации согласно п. 1.11 ст.7 Закона Республики Беларусь "О государственной дактилоскопической регистрации" от 4.11.2003 г. в редакции от 4.01.2010 г., чем оказал неповиновение сотрудникам милиции при исполнении ими служебных полномочий".*** В протоколе также было записано, что ответственность за это правонарушение предусмотрена статьей 23.4 КоАП РБ.

Перед Новым годом, 28 декабря 2011 года, административно привлекаемого Виталия Казака вызвали по повестке в суд Московского района г.Бреста.

Он пришел в кабинет судьи вместе со своей престарелой матерью. Судья **Раиса Лобачевская** исправно зачитала милицейский протокол и спросила:

*— Вину свою признаете?*

*— А моя объяснительная была прочитана вами?*

*— Уважаемый, вы в суд пришли давать пояснения, а не задавать вопросы председательствующему.*

*— Я не оказывал неповиновения сотрудникам милиции, как здесь указано.*

*— Пожалуйста, поясните: почему не признаете свою вину?*

*— Я по религиозным соображениям просил милицию отменить сдачу отпечатков пальцев и заменить ее на взятие анализа ДНК, что будет более важным. Моя совесть кристально чиста, я преступлений никаких не совершал и не собираюсь совершать впредь. Что я и сделал, подтвердив свою порядочность. Такой высокий патриотизм пока у нас никто не проявлял, а я это сделал.*



**Виталий Казак и его мать Евгения Константиновна после судебного разбирательства.**

*— Сдавать или не сдавать анализ ДНК — это ваше право, — заметила судья, — а закон, который действует в Беларуси, единый для всех, и заменить его сотрудники милиции не вправе — по вашему желанию. Нравится он или нет, но мы обязаны его исполнять, никаких исключений в законе не предусмотрено. Поэтому обращайтесь в Палату представителей и в Совет Республики Национального собрания Республики Беларусь.*

*Суд накладывает на вас административный штраф — 20 базовых величин, или 700 тысяч рублей.*

Виталий Казак собирается обжаловать решение суда в суде Брестского области:

*— Это дело чести. Я не согласен с решением суда. Судья поступила по букве, а не по духу закона. Если заботишься о гражданах страны, то правильней было бы заложить в закон норму о взятии ДНК, а не унизительную процедуру снятия отпечатков пальцев. Милиция занимается абсолютно ненужным делом, а при этом преступность растет.*

С этим нельзя не согласиться. Действительно, **будь в Законе "О государственной дактилоскопической регистрации" несколько дополнительных слов "прохождение дактилоскопической регистрации или ДНК (по желанию гражданина)", подобных казусов не случалось бы! Получается, что депутаты Палаты представителей, среди которых были тогда бывший главврач Брестской городской больницы Олег Величко, бывший главный санитарный врач Брестской области Валентина Качан и другие, приняли закон автоматически, без учета возможных реалий?**

### Полтора миллиона на памятник

В свою очередь у сына и его матери имеется "зуб" на правоохранительную и судебную систему. 78-летняя Евгения Константиновна более полутора лет не может по суду добиться возврата от мошенника, которого упрятали за решетку, 1,5 млн рублей, из них — полмиллиона компенсации за моральный ущерб. Фирма С.Корнеевца, подрядившаяся ставить памятники ушедшим в мир иной, брала предоплату с несчастных людей, но не ударила палец о палец, чтобы выполнить заказы. Мама Виталия Казака, как и другие потерпевшие, попала на крючок дельца, когда собралась в 2008 году поставить памятник его отцу, но так и не дождалась его.

У должника не обнаружено имущества, на которое можно было бы обратить взыскание долга, поэтому исполнительный документ о взыскании полутора миллиона рублей был ей возвращен. Куда теперь пожилой женщине идти, чтобы добиться правды?

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

*Брест.*

**P.S.** После Нового года, 2 января, Виталий Николаевич получил на руки постановление суда Московского района г.Бреста (№67283 от 28.12.2011 г.). Каково же было его удивление, когда в нем не нашел подтверждения тому, о чем говорил в суде, а прочитал о себе следующее: *"Он просил сотрудников милиции заменить ему дактилоскопию на процедуру анализа ДНК, но ему отказали... Ссылки Казака В.Н. на его отказ от дактилоскопической регистрации в силу религиозных соображений, а также на замену процедуры дактилоскопирования на процедуру анализа ДНК носят формальный характер, являются по существу отговоркой".*

## *Выпуск танных він скароціцца*

*Вытворчасць пладовых мацаваных ардынарных він у Беларусі ў 2012 годзе скароціцца ў 7,4 раза ў параўнанні з мінулым годам і складзе 466 тыс. дал. Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў Мінэканомікі.*

У мэтах нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці імпартазамяшчальнай прадукцыі ўстаноўлены квоты на вытворчасць каньяку ў аб'ёме 438 тыс. дал, віскі — 102 тыс. дал, рому — 25 тыс. дал.

ЧУЛІ?

## *Саша Варламаў ужо 4 месяцы ляжыць у турэмным шпіталі*

*Ён дрэнна сябе адчувае і нават не выходзіць на прагулкі.*



Пра гэта паведаміла сястра мадэльера Рыма Шымчонак.

*"Канешне, настрой у яго ўпаднліцкі,* — сказала ў эфіры "Еўрарадыё" Рыма Леанідаўна. — *Колькі ўжо гэта ўсё можа цягнуцца? Цяжка яму там. Цяпер вось чамусьці не піша. Раней амаль кожны дзень атрымлівалі лісты, акрамя выхадных. Можа, яму цяпер не вельмі добра?"*

У турэмны шпіталь Варламава змясцілі ў жніўні. Па словах Рымы Шымчонак, ён не ходзіць на прагулкі, бо баліць спіна. А на прагулках няма дзе прысесці. Апошні ліст да сваякоў мадэльер дасылаў перад Новым годам.

Нагадаем, Саша Варламаў ужо 9 месяцаў знаходзіцца за кратамі. Спачатку яго абвінавачвалі ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. У лістападзе на дызайнера завялі яшчэ дзве справы — за перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў, учыненае з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці, а таксама за махлярства.

Тэрмін знаходжання яго пад вартай заканчваецца 19 лютага.

